ГАЗЭТА БЕЛАРУСАЎ У ВОЛЬНЫМ СЬВЕЦЕ. ЦАНА — PRICE $ 1.50

# Беларус

B I E L A R U S
Byelorussian Newspaper in the free World
Published by the Byelorussian-American Association
P.O. Box 178
Jamaica, New York 11432
U.S.A.

№. 337
Год выд. XXXVI

Ліпень
1987 г.

## БССР: ПРЫХАВАНАЯ АНАРХІЯ

Да прыходу да ўлады Міхаіла Гарбачова савецкая сыстэма была без заганаў, памылак ня мела — прынамся гэтак угаворвала нам партыйная ідэялёгія. Было адно крыху памылак да XX-га зьезду партыі, зьвязаных з культам асобы Сталіна, але й пра іх ідэолягі стараліся ня вельмі пашыраццa. Цэлых трыццаць гадоў партыя вяла народ да г.зв. узвышшаў сацыялізму — разьвітога, рэальнага, ці як яшчэ яго там называлі.

Але сёньня і тэартэтыкі і практыкі савецкай ідэялёгіі глядзяць на свае «ўзвышшы» па-іншаму, «ўзвышшы» сталіся «гадамі застою», прывялі да «крызіснага палажэньня». Абвешчаная галоснасьць з кожным днём адкрывае такія памеры памылак кіраўнікоў з брэжнеўска-андропаўска-чарненкаўскае пары, што проста дзіву даешся: а ці ня прысьнілася ўсё гэта? Але не, гэта ня сон, гэта рэальнасьць. Сёньня ў савецкім друку можна прачытаць аб шмат якіх сацыяльных праблемах савецкага грамадзтва, на якія дзесяцігодзьдзямі не дазволена было й намякаць, ня тое, што апісваць іх у афіцыйным друку.

Адкуль бяруцца толькі цяпер у СССР праблемы з алькаголікамі, прастытуткамі, наркаманамі, гандлярамі валютай, сэксульнымі маньякамі, злачынцамі! Яшчэ год-два таму савецкія газэты пісалі аб гэтым як аб зьявах уласьцівых выключна краінам Захаду. А калі нешта падобнага й здаралася ў Савецкім Саюзе, дык абавязкава цьвердзілі, што гэта «паасобныя», «нехарактэрныя» выпадкі. Але цяпер гэтыя «паасобныя» выпадкі сталіся яшчэ якімі характэрнымі.

У савецкай краіне, як выяўляецца, дзесяцігодзьдзямі культываваліся розныя формы прыхаванае анархіі, чыноўніцкае самаволі, на якія заплюшчвалі вочы і партыйныя кіраўнікі і працаўнікі друку. Пры гэтым трэба адзначыць, анархія й распуста культываваліся на самых вярхох партыйные эліты. Пра гэта красамоўна было расказана нядаўна ў савецкім друку на прыкладзе партыйнае эліты Казахстану, дзе ствараліся гатэлі й матэлі для кіраўнічых чыноўнікаў з фэшэнэбельнымі пакоямі, слугамі, аховаю, дзяўчатамі для забаваў ды адмысловымі заказьнікамі, у якіх чыноўніцкая знаць праводзіла паляваньні на рэдкіх зьвяроў. На Беларусі, як відаць, гэты разгул партыйнае эліты быў больш сьціплы, але памеры ягоныя таксама немалыя.

Пра анархію ў галіне аховы правапарадку, злаўжываньні ўладаю міліцыі і сьледчых органаў напісаў пракурор Беларусі Тарнаўскі ў газэце «Советская Белоруссия» у нумары за 8-га травеня сёлета. Аказваецца, паасобныя працаўнікі пракуратуры рэспублікі, карыстаючыся ўладаю, проста фабрыкавалі судовыя справы, сьведама дапушчалі грубыя парушэньні законнасьці, у выніку чаго шмат невінаватых людзей пацярпела, прычым некаторыя былі пакараныя сьмерцю. Усе, хто злаўжываў уладаю, піша Тарнаўскі, сёньня звольненыя з пасадаў. Вялікая палёгка тым, каго на той сьвет адправілі!...

Але куды больш прыхаваная форма анархіі й дасюль пануе ў рэспубліцы ў галіне нацыянальнае культуры, упасобку ў галіне школьніцтва, у галіне тэатру й кіно. Гэта — бюракратычная самаволя ў стаўленьні школьных уладаў, Міністэрства асьветы да беларускае мовы, як асноўнае мовы навучаньня ў БССР. І да чаго гэтая самаволя давяла? А да таго, што ў рэспубліцы ў гарадох і гарадзкіх пасёлках сёньня засталося толькі пяць школаў з беларускай мовай навучаньня, як сказаў пра гэта, між іншых абаронцаў беларускае мовы, маскоўскі пісьменьнік Юры Сураўцаў на апошнім пленуме праўленьня Саюзу Пісьменьнікаў СССР.

Сёньня гэтую прыхаваную анархію ў галіне нацыянальнае культуры, трэба прызнаца, даволі жвава абмяркоўваюць на розных узроўнях. Але што робяць рэспубліканскія вышэйстаячыя інстанцыі, якія, думаецца, і раней былі, а цяпер яшчэ больш павінны быць азнаёмленыя з моўнай анархіяй у школах БССР? А вышэйстаячыя інстанцыі, у тым ліку і ЦК КПБ на чале зь першым сакратаром Яфрэмам Сакаловам, з трыбунаў цьвердзяць, што з моўнай сытуацыяй у рэспубліцы ўсё нармальна. Для разьвіцьця роднае мовы, сказаў Яфрэм Сакалоў, у нас створаныя ўсе ўмовы. Маўляў, бяры разьвівай, навучай, табе ніхто не забараняе. Але гэта — пагляд ЦК КПБ. А вось пісьменьнікі, у тым ліку й першы сакратар Саюзу Пісьменьнікаў БССР Ніл Гілевіч, маюць зусім адваротны пагляд на сёньняшнюю моўную сытуацыю ў рэспубліцы. Гілевіч сказаў на апошнім пісьменьніцкім пленуме ў Маскве, што беларускім літаратарам, прыкладам, адмаўляюць дзесяцігодзьдзямі ў вельмі патрэбным для росту нацыянальнае літаратуры часапісе. Дык дзе-ж тыя роўныя ўмовы для разьвіцьця роднае мовы, пра якія цьвердзіць першы сакратар ЦК КПБ Сакалоў?

У гэтай сувязі хацелася-б пару словаў сказаць аб тым, чаго вартыя галоснасьць і перабудова. Бязумоўна, той працэс, які адбываецца сёньня ў СССР, вельмі карысны — хоць штосьці, нарэшце, людзі могуць даведацца аб сваёй краіне, пачуць праўду і аб забюракрачаным дзяржаўным апараце і аб партыйнай эліце.

Але якая практычна карысьць ад галоснасьці ў дачыненьні да культуры Беларусі? Што тут галоснасьць можа зьмяніць? Тымчасам, апрача гутарак, справа далёка не пайшла. Адно даводзіцца спадзявацца, што нешта, можа, зьменіцца ў гэтым пляне бліжэйшым часам. Можа міне неўзабаве час, калі шчырыя выказваньні пра беларускую мову друкаваць трэба будзе ня ў Лёндане, як гэта было з кніжкай Алега Бембеля «Роднае слова і маральнаэстэтычны прагрэс», а падобныя кніжкі будуць друкаваць у Менску, ды ня будуць выключаць з партыі і аўтараў гэткіх кніжак, як гэта адбылося з Алегам Бембелем.

Цяпер, калі новае партыйнае кіраўніцтва дало крыху магчымасьці гаварыць адкрыта пра анархію бюракратаў ды пазбаўляцца ад гэтае анархіі, можа і анархія ў галіне навучаньня роднай мовы ў школах Беларусі таксама будзе нарэшце зьліквідаваная.

**Алесь Васілеўскі**

## ПРЭЗ. РЭЙГАН ПРА ПАНЯВОЛЕНЫЯ НАРОДЫ

У Вашынгтоне 24 ліпеня сёлета ўва ўкраінскай каталіцкай царкве Прэз. Рэйган выступіў з прамовай з нагоды Тыдня Паняволеных Народаў. Аўдыторыя ягоная складалася з прадстаўнікоў нацыянальных групаў Амэрыкі.

«Сёньня мы зыйшліся сюды, — сказаў прэзыдэнт, — каб задэкляраваць нашую салідарнасьць з тымі, чые народы паняволеныя камунізмам. Гэтая ўрачыстасьць адбываецца ў духу Айцоў-Заснавальнікаў Амэрыкі, якія глядзелі на гэтую новую зямлю, як на прыклад для ўсяго чалавецтва, бастыён свабоды ды сьветлы промень надзеі для паняволеных гэтага сьвету».

Прэзыдэнт Рэйган расказаў, як у 1852 годзе ў горад Спрынгфілд у штаце Іліной, у якім тады жыў будучы прэзыдэнт Амэрыкі Абрагам Лінкальн, прыехаў быў вэнгерскі змагар за свабоду Ляшлё Кошут.

Кошут, лідэр вэнгерскае рэвалюцыі 1848 году, здушанае войскамі царскае Расеі, сваім выступленьнем перад жыхарамі Спрынгфілду выклікаў гарачыя спрэчкі аб міжнароднай ролі Злучаных Штатаў. Вынікам спрэчак сталася прынятая спрынгфільдцамі рэзалюцыя, у якой было запісана: «Абавязак Злучаных Штатаў — не прадпрыймаць ніякіх дзеяньняў, не абвяшчаць ніякіх прынцыпаў неінтэрвэнцыі, якія перашкаджалі-б Амэрыцы калі-небудзь умешвацца ў справы якога-б там ні было народу ў якойхаця частцы сьвету, які можа змагацца за свабоду...».

У духу тае рэзалюцыі, прынятае 135 гадоў таму, Прэзыдэнт Рэйган і сказаў: «Нашае глабальнае падтрымваньне свабоды не забавязвае нас пасылаць зброю або войска, але прынамся гэта значыць, што калі якому-небудзь народу адмаўляецца ягоная свабода або гвалтуецца ягоная незалежнасьць, трэба, каб гэткі народ ведаў, што мы, Амэрыканцы, на ягоным баку».

Прызэдэнт Рэйган нагадаў сваім слухачом, што Амэрыканцы ня вераць цьверджаньням савецкай прапаганды аб тым, што камуністычныя ўрады прадстаўляюць волю тых людзей, над якімі яны маюць уладу. «Камуністычная філязофія правалілася, — сказаў Рэйган, — камунізм стаўся тэорыяй, якая спараджае мізэру, нястачы і ўціск, як толькі гэтая тэорыя пачынае ўводзіцца ў практыку».

Прэзыдэнт Рэйган заклікаў савецкага лідэра Гарбачова — падмацаваць свае словы аб «галоснасьці» справамі — даць паняволеным народам ад Балтыкі да Баўгарыі і ад В'етнаму да Анголі права свабадна выбіраць сабе форму ўлады, а таксама выпусьціць у Савецкім Саюзе на волю палітычных вязьняў. Зварачаючыся рытарычна да Генэральнага Сакратара КПСС Гарбачова Прэзыдэнт Рэйган сказаў: «І ведайце, што збольшаньне свабоды й правоў чалавека — гэта асноўны элемэнт да палепшаньня дачыненьняў паміж Усходам і Захадам»

***«Сыстэма кіраваньня, створаная ў 30-50-х гадох, поўнасьцяй вычарпала свае магчымасьці. Захаваньне яе вяло да эканамічнае стагнацыі, ставіла наша грамадзтва ў існасьці на грань крызісу, пасбляляла аўтарытэт і ўплывы Савецкага Саюзу на міжнароднай арэне... Адначасна трэба прызнаць, што магчымасьці капіталізму прыстасоўвацца да новага гістарычнага асяродзьдзя перасягнулі нашыя меркаваньні... Сацыялізм пакуль што ня здолеў набыць тае сілы прыкладу, пра якую пісаў У. І. Ленін».*** — А. Бовін, палітычны аглядальнік «Известий», арт. пад заг. «Перабудова й лёсы сацыялізму». «Известия», 11 ліпеня 1987 г.

### ГЕНЭРАЛЬНЫ САКРАТАР ААН У МЕНСКУ

Упяршыню за гады членства БССР у Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў сталіцу Беларускай ССР наведаў 24 чэрвеня сёлета Генэральны Сакратар ААН Жав'е Пэрэз дэ Куэльяр. Адбылася сустрэча Генэральнага Сакратара ААН із Старшынём Прэзыдыюму Вярхоўнага Савету рэспублікі, «прэзыдэнтам» Таразевічам ды іншымі членамі ўраду рэспублікі.

### М. СЬЛЮНЬКОЎ У ПАЛІТБЮРО

Мікалай Сьлюнькоў, былы першы сакратар ЦК кампартыі Беларусі, кандыдат у члены Палітбюро, 26 чэрвеня сёлета на пленарным паседжаньні ЦК КПСС быў зацьверджаны як поўны член Палітбюро. Сьлюнькоў, аднадумец Гарбачова, будзе весьці перабудову эканомікі. На канфэрэнцыі ў Крамлі 8-9 чэрвеня сёлета Сьлюнькоў чытаў галоўны даклад на тэму «Кардынальная перабудова кіраваньня эканомікай».

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
Subscription $15 yearly
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Падпіска зь перасылкаю 15 дал. на год.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## «БЕЛАРУС»: ПРЫБЫТКІ Й ВЫДАТКІ...

«Беларус» патрабуе грашовае дапамогі, каб магчы выходзіць далей рэгулярна. Друк і рассылка аднаго нумару каштуюць паўтары тысячы даляраў. Калі Вы, паважаны Чытачу, возьмеце зь дзесяток апошніх нумароў газэты і падлічыце, колькі было прыслана ў выдавецтва грошай (кожны даляр падпіскі й ахвяраў пaквітаваны ў газэце), дык пабачыце, што выдаткі на газэту большыя як прыбыткі. Гэта значыць, што пры гэткім далейшым фінансавым стане нельга забясьпечыць рэгулярны выхад «Беларуса». Каб газэта магла выходзіць рэгулярна, патрэбная Вашая больш шчодрая дапамога. Вы, Чытачы — адзіная крыніца фондаў на выхад газэты. Мы спадзяёмся, што Вы адгукнецеся на гэты заклік пасільным грашовым укладам у выдавецкі фонд «Беларуса».

Сёньня, калі гэтак шмат дзецца ў беларускім жыцьці на Бацькаўшчыне й на эміграцыі, рэгулярны выхад вольнага прэсавага органу патрэбен, як ніколі. І калі Вы не паможаце свайму друкаванаму слову, дык хто?..

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## *ДЭТАЛІ ЛІСТА 28-Х*

У папярэднім нумары «Беларуса» было пададзена пра тое, што эстонскі савецкі часапіс «Вікеркаар» (за травень 1987 г.) паінфармаваў сваіх чытачоў аб лісьце 28-х дзеячоў беларускае культуры да М. Гарбачова. Аўтар інфармацыі — малады эстонскі пісьменьнік, які быў запрошаны ў Менск на літаратурны сэмінар. Сэмінар адбыўся, відаць, недзе на пачатку сьнежня летась. На сэмінары, апрача літаратурных чытаньняў і дыскусіяў, піша аўтар, «быў укладзены ліст да Генэральнага Сакратара КПСС Міхаіла Гарбачова, у якім гаварылася пра канечную патрэбу зьнесьці штучна створаныя бар'еры паміж беларускімі пісьменьнікамі ды іхнімі чытачамі. Сучаснае палажэньне характарызуецца ў лісьце, — інфармуе далей эстонскі аўтар, — як вынік выкрыўленьня ленінскае нацыянальнае палітыкі. Як у лісьце й сказана: 'У намаганьні штучна прысьпешыць працэс зьліцьця нацыяў пачатковыя школы й дзіцячыя садкі з роднай мовай навучаньня былі паліквідаваныя ў гарадох і часткава ў вёсках. У расейскамоўных школах узровень выкладаньня беларускай мовы нізкі: родная мова становіць прадмет, ад якога можна й адмовіцца».

Параўнаньне цытатаў з эстонскага часапісу й тэксту ліста 28-х паказвае, што ў канчальнай рэдакцыі ліста былі пароблены зьмены. Інфармацыя эстонскага часапісу канчаецца цытатай з выступленьня на сэмінары Ніла Гілевіча, першага сакратара праўленьня Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі. Гілевіч сказаў, што ліст пратэсту быў народжаны пачуцьцём адказнасьці беларускіх пісьменьнікаў за маладое пакаленьне. «Цяжка гаварыць праўду, — сказаў Гілевіч, — але рабіць гэта проста неабходна. Гэта асабліва датычыць да пісьменьнікаў, бо бяз праўды пісьменьнік ня існуе. Ня ўсе аднак дзеячы культуры трымаліся гэтага прынцыпу. У выніку ні слова ня было сказана пра запраўдны стан роднай мовы, школаў, і культуры ў нашых зборніках твораў, ні слова пра ўсё, пра што тут гэтак шмат гаварылася. Тут сёньня звыйшлося 25 патрыётаў — зрабеце-ж так, каб іх было 250, тады — 2500. Культурныя помнікі руйнуюцца, нацыянальная тэма поўнасьцяй занядбаная. Я заклікаю вас прызнаць гэта, думаць пра гэта. Мы мусім дамагацца, каб заўтрае нашай літаратуры было больш адчыненае, а нашая культура больш глыбокая. Наш народ патрабуе гэтага».

## *КАНФРАНТАЦЫЯ ГЕНЭРАЛАЎ І А. АДАМОВІЧА*

Два адстаўныя генэралы, два палкоўнікі ды яшчэ пару асобаў выступілі ў газэце «Зьвязда» (4.VII.87) з крытыкай зборніка працаў Рэспубліканскай канфэрэнцыі, праведзенай у Менску Інстытутам літаратуры АН БССР і Саюзам Пісьменьнікаў БССР. Вэтэраны крытыкуюць зборнік («Литература о войне и проблемы века», выд. «Навука і тэхніка», Менск, 1986) за тое, што ў ім «з поля зроку выпала такая важная праблема, як асьвятленьне ў літаратуры кіруючай і арганізуючай ролі Камуністычнай партыі». «Дзіўна, — пішуць вэтэраны, — што гэтую найважнейшую вечную тэму абыйшоў увагай Алесь Адамовіч як у сваім дакладзе, такі і ў заключным слове. Нас зьдзіўляе, што ў вялікім дакладзе (ён займае 35 кніжных старонак) ні разу не ўпамінаецца Камуністычная партыя, камуністы, камсамольцы...».

Не задаволеныя аўтары калектыўнага пратэсту і яшчэ аднэй акалічнасьцяй — тым, што ў шэрагу выступленьняў на канфэрэнцыі «актыўна прапагандаваўся тэзіс аб 'агульначалавечым гуманізьме', у аснове якога ляжыць біблейская запаведзь 'Не забі' (не забівай нават ворага)».

---

ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ

Галоўная Ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня гэтым паведамляе, што чародны 22-гі кангрэс БАЗА адбудзецца ў Гайленд-Парку, Н. Дж., у канцытдні Сьвята Працы 5-6 верасьня 1987 году.

Пачатак нарадаў у сыботу 5-га верасьня а гадз. 1-й папаўдні ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру (9 Рывэр Роўд).

**УПРАВА**

## САВЕЦКІ ПРАПАГАНДЫСТ ЧЫТАЕ «БЕЛАРУСА»

Савецкі публіцыст Алесь Бажко, які спэцыялізуецца на тэме «беларускіх буржуазных нацыяналістаў» (белбурнацаў), зарэагаваў у газэце «Зьвязда» (17.VII.87) на, кажучы словамі Бажка, «падрыўную антысавецкую валтузьню бээнэраўскіх банкрутаў на тэрыторыі ЗША вакол сьвяткаваньня чарговай гадавіны абвешчаньня так званай 'незалежнасьці БНР' ».

Бажко, пачытаўшы «Беларуса», устурбаваўся тым, што летась губэрнатары штатаў Нью-Ёрк і Нью-Джэрзы абвесьцілі дзень 25-га сакавіка «Беларускім Днём», а Прэзыдэнт Рэйган прыслаў удзельнікам Сакавіковых сьвяткаваньняў прывітальную тэлеграму. Для Рэйгана, піша Бажко, «паўночнаамэрыканскія Беларусы... сталі аб'ектам асаблівай зацікаўленасьці». І ў сувязі з гэтым Бажко (артыкул якога загалоўлены «Даводзіцца толькі зьдзіўляцца») піша: «Даводзіцца толькі зьдзіўляцца, што нашы вучоныя летапісцы маўчаць, нічога не гаворачь аб гэтым нашай моладзі».

Гэта — вельмі цікавае прызнаньне савецкага прапагандыста! Беларускай савецкай моладзі, як выяўляецца, трэба ўстаўляць мазгі што да «паўночнаамэрыканскіх Беларусаў»!...

Алесь Бажко, падмацаваўшы ў «Зьвязьдзе» свае прозьвішча азначэньнямі «пісьменік, заслужаны работнік культуры БССР», зрабіў таксама выпад супраць часапісу «Неман».

У сёлетнім студзенскім нумары «Немана» савецкі літаратурны крытык Міхась Мушынскі, базуючыся на матар'ялах «Беларуса» (гл. »Беларус« № 333, арт. « 'Неман' пра 'Беларуса' »), напісаў пра брытанскага дасьледніка беларускай літаратуры праф. Арнольда Макміліна, як пра «кампэтэнтнага і аб'ектыўнага дасьледчыка гісторыі беларускай літаратуры». Бажко з гэткай ацэнкай аніяк не згаджаецца. «У 'Немане', — заяўляе Бажко, — не дачыталі да канца падшыўку ньюёркскага 'Беларуса' за мінулы год. А яе ўпрыгожвае інфармацыя, зь якой вынікае, што Макмілін ня проста літаратуразнавец, але яшчэ і нястомны здабытчык матар'ялаў па... 'славянскаму нацыяналізму' ». Бажко назваў Макміліна «першай асобай на белбурнацкіх зборышчах, прысьвечаных нацыянальнай праблеме ў Савецкім Саюзе, дзе ён выступае з дакладам 'Русыфікацыя ды ейныя апанэнты ў новай беларускай літаратуры' ».

Бажко, абвінаваціўшы Мушынскага, што той «не дачытаў да канца падшыўку ньюёркскага 'Беларуса' », сам не дачытаў да канца адзін сказ у тым-жа «Беларусе». У нумары 332-м нашай газэты чорным па белым напісана, што праф. Макмілін свой даклад чытаў «на канфэрэнцыі, прысьвечанай славянскаму нацыяналізму, што адбывалася ў Макмастэрскім У-це ў гор. Гамільтоне». Калі Бажко не ведае, дык гэта ў Канадзе. Макмастэрскі Ўнівэрсытэт — канадзкая ВНУ, канфэрэнцыя там была міжнародная, нічога супольнага з «белбурнацамі» ня мела. На «белбурнацкіх зборышчах» перад «паўночнаамэрыканскімі Беларусамі» праф. Макмілін ніколі яшчэ не выступаў. «Беларус» падаў гэную вестку пра даклад др. Макміліна ў Гамільтоне паводля «Камунікатаў Згуртаваньня Беларусаў Канады за другую палову 1986 году». Бажко, значыць, або ня ўцяміў таго, што прачытаў, або, барджэй за ўсё, наўмысна выкрывіў сэнс паданае «Беларусам» весткі.

Бажко разам з газэтай «Зьвязда», ці першы раз ужо, ганьбуюць дзеячоў эміграntaў Антона Адамовіча, а. Аляксандра Надсона, др. Барыса Рагулю ды некаторых іншых. Пішучы пра Ант. Адамовіча, як пра «платнага памагатага ЦРУ, разьвенчанага амэрыканскімі кінадакумэнталістамі», Бажко раптам прызнаецца: «А мы ўсё яшчэ баімся нават шкнуць на яго...». Цікава, хто гэта — «мы»? І чаму гэта «мы ўсё яшчэ баімся»? Баімся каго? Чаго?

Нам думаецца, што Бажко ды тыя, каму ён служыць, баяцца, што беларуская грамадзкасьць на Бацькаўшчыне мае свае, небажкоўскія і незьвяздоўскія, пагляды на беларускую палітычную эміграцыю ды палітычную мінуўшчыну (а значыцца, і палітычную будучыню) Беларусі.

Весткі пра дзейнасьць беларускай эміграцыі даходзяць да Беларусаў на Бацькаўшчыне рознымі шляхамі, а ў тым ліку й праз газэту «Беларус». Гэта страшна савецкай паліцыйнай уладзе ды ейным прыслужнікам. Алесь Бажко, пішучы зьедліва пра эмігрантаў, што «нястомна кешкаюцца пад эгідай БНР», імкнецца натхніць чытача «Зьвязды» сваёй «праўдай» пра эмігрантаў. «Трэба, каб наша грамадзкасьць усё ведала пра іх, — усклікае Бажко. — Інакш знойдуцца старацелі, якія БУДУЦЬ ПІСАЦЬ З ПАНОЎ НАДСАНАЎ І ІХ БЭЭНЭРАЎСКІХ РАДЫЁГАЗЭТНЫХ ПАДПЯВАЛАЎ ІКОНЫ ДЛЯ НЕАБСТРАЛЯНЫХ ЮНЦОЎ І ЗАМАЦЯРЭЛЫХ МЕСТАЧКОВЫХ ПАЛІТЫКАНАЎ». Вось што страшна Бажку і ягоным ідэялягічным паліцмайстрам.

**«БЕЛАРУС»**

## *МОЛАДЗЬ У БССР: «БЯЗЫДЭЙНАСЬЦЬ І НАВАТ НАРКАМАНІЯ»*

Упяршыню на высокім партыйным форуме была прызнаная наяўнасьць наркаманіі ў Беларусі. На пленуме ЦК КПБ першы сакратар кампартыі рэспублікі Яфрэм Сакалоў у дакладзе прызнаўся: «Выклікае заклапочанасьць, што сярод часткі маладых людзей распаўсюдзіліся бязыдэйнасьць, нявыразна праяўляюцца клясавыя пазыцыі, узмацняюцца спажывецкія настроі, маюць месца п'янства, хуліганства ці нават наркаманія». («Зьвязда», 27.III.87).

## СЬМЯРОТНАСЬЦЬ ДЗЯЦЕЙ

У кастрычніку 1986 г. Цэнтральнае Статыстычнае Ўпраўленьне СССР упяршыню за апошнія 12 гадоў апублікавала афіцыйную статыстыку сьмяротнасьці дзяцей. Дадзеныя пацьвердзілі падазраньні заходніх экспэртаў, што сьмяротнасьць дзяцей у СССР істотна ўзрасла ад 1971 году, у якім яна была найніжэйшая: 22,9 сьмерці на 1000 жывых народжаных дзяцей.

У 1985 г. сьмяротнасьць дзяцей у Савецкім Саюзе была 26 на 1000 народжаных жывымі — у два з палавіною разы вышэйшая як у ЗША ( у ЗША ў 1985 г. памерла 11 дзяцей на 1000 народжаных жывымі).

З краёў савецкага блёку ў 1985 г. сьмяротнасьць дзяцей у СССР была найвышэйшая ( 26 на 1000), у Румыніі — 22 на 1000, у Баўгарыі — 18, Вугоршчыне — 18, Польшчы — 18, Чэхаславаччыне — 14, Усходняй Нямеччыне — 11.

# ЮБІЛЕЙ ПЕРШАГІЕРАРХА БАПЦ

Сёлета 21-га травеня Першагіерарху Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, Высокадастойнаму Архіепіскапу Мікалаю споўнілася 70 гадоў. Парафіяне парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Тароньце ўшанавалі духоўнага пастыра БАПЦ з нагоды ягонага юбілею ў нядзелю 24-га травеня ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры. Якраз-жа ў сыботу 23-га травеня адбываўся тут 31-шы агульны зьезд Згуртаваньня Беларусаў Канады. Гэта паспрыяла, каб некаторыя ўдзельнікі Зьезду пабылі і на юбілейным сьвяце Архіепіскапа Мікалая. Прыемна было бачыць гасьцей зь Нью-Ёрку, Нью-Брансьвіку, Кліўленду, Дэтройту. На сьвяце былі сьвятары: а. Прат. Юры Красевіч з матушкай зь Вініпэгу, ад Украінскай Праваслаўнай Царквы; а. Прат. Ал. Быковец з Дэтройту, ад Укр. Аўтакефальнай Царквы ў Амэрыцы; а. Прат. М. Страпко з Кліўленду; а. Ал. Чарнышоў.



*Пасьля малітвы зь Юбілярам перад царквою.*

У часе Сьв. Літургіі Архіепіскапу Мікалаю асыставалі а. а. М. Страпко й Ал. Быковец.

Як і належалася, напрыканцы багаслужбы Юбіляру адсьпявалі «многая лета», а Ўладыка Мікалай сказаў кароткае й зьмястоўнае слова пра Пастыраў і вернікаў.

Два заслужаныя працаўнікі мясцовае парафіі, сп-ні Н. Навіцкая і Н. Сільвановіч, атрымалі ад Архіепіскапа Мікалая пахвальныя лісты за іхнюю доўгую й адданую працу для парафіі.

У новааднаўленай царкоўнай залі мясцовыя вернікі й госьці маглі агледаць выстаўку фатаграфіяў і дакумантаў з жыцьцёвага шляху Першагіерарха БАПЦ.

У часе трохгадзіннага банкету пра жыцьцёвы шлях Юбіляра гаварыў мгр. Васіль Пляскач. Урачыстасьць адчыніў старшыня таронцкай парафіі сп. Ул. Цялеш. Уладыку быў уручаны падарак — чэк на 1000 даляраў. Торт і гэны самы чэк прыпаднесьлі, пад агульныя воплескі, самыя наймалодшыя, ужо з трэцяга пакаленьня вернікаў БАПЦ у Канадзе.

Прывітаньні Юбіляру (якія прачытаў гаспадар сьвята сп. Мікола Ганько) прыслалі:

Мітрапаліт Вініпэгу і ўсяе Канады Васіль, ад Украінскай Грэка-Праваслаўнай Царквы ў Канадзе; парафія Сьвятога Духа ў Беластоку (настаяцель а. Юры Барэчка); парафія Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку); Рада БАПЦ; парафія БАПЦ у Дораты; парафія Сьв. Духа ў Дэтройце; парафія Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку; вернікі БАПЦ у Мэльбурне (Аўстралія); парафія Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе; а. А. Радэнковіч із штату Агаё (ЗША).

Прывітаньні прыслалі таксама прэм'ер Канады Браян Малроні й жонка Міла; лідэр апазыцыйнай лібэральнай партыі Джан Тэрнэр; пасол парляманту ад таронцкай акругі Трыніты Эйдын Нікалсан.

Віталі Ўладыку Мікалая зь ягоным юбілеем і арганізацыі:

Згуртаваньне Беларусаў Канады; Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі; Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (галоўная ўправа, аддзелы Нью-Ёрк, Нью-Джэрзы); Задзіночаньне Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў; Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (сэктары ў Аўстраліі й Нью-Джэрзы).

З асабістымі вітаньнямі на банкеце выступілі: Старшыня Рады БНР др. Я. Сажыч, сп. Васіль Русак, сп. Кастусь Верабей, сп. Мікола Ганько, старшыня сэктару Рады БНР у Канадзе, сп. Ул. Цялеш, старшыня Парафіяльнай Рады парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага, а. Прат. М. Страпко, настаяцель парафіі Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе.

Шмат асабістых прывітаньняў з Канады, Амэрыкі, Бэльгіі, Англіі былі перасланыя поштаю.

За арганізацыю сьвяткаваньня была выказаная на банкеце падзяка сп-ням: Ані Мышкоўскай, Ані Харэвіч, Ваньдзе Сільвановіч, Лідзе Цялеш, Марыі Ганько, Веры Радэк, Марыі Саўка, Надзі Баран, сп.сп. А. Нікановічу, К. Шаршуновічу, Ул. Цялешу.

Падзякі за прыслугі на банкеце атрымалі сп-ні Рыта Рудніцкая, Крыстына Эдэленбос, Люся Сільвановіч, Таня Эдэленбос.

Сьціпла кажучы, сьвяткаваньне 70-х угодкаў нараджэньня Першагіерарха БАПЦ Архіепіскапа Мікалая было добра зарганізавана, пры масавым удзеле вернікаў і прыхільнікаў БАПЦ, а сам Юбіляр, які прамаўляў апошнім, дзякаваў усім і прасіў падтрымліваць нашу Царкву Праваслаўную ў будучыні.

**К. Акула**

TZE331 MAY 19 1331 EST
RH048 TRH126

WA095 30 FR
TD WINNIPEG MB 19 1244
HIS EMINENCE ARCHBISHOP MIKALAY
524 ST CLARENS AVE
TORONTO 4 ON M6H 3W7
BT
CONGRATULATIONS ON YOUR 70TH BIRTHDAY, I PRAY THAT THE GOOD LORD GRANT YOU MANY MORE HAPPY YEARS BLESSED WITH HEALTH NEEDED IN YOUR ARCH PASTORAL DUTIES. HAPPY BIRTHDAY
METROPLITAN WASYLY

*Прывітальная тэлеграма Ўладыку Мікалаю ад Мітрапаліта Вініпэгу і ўсяе Канады Васіля Украінскае Грэка-Праваслаўнае Царквы ў Канадзе*



PRIME MINISTER · PREMIER MINISTRE

OTTAWA, 1987

Dear His Grace Mikalay,

Mila joins me in extending warmest greetings on your seventieth birthday.

May this day symbolize for you the realization of your dreams and aspirations and may future years be kind to you and yours.

With warmest congratulations.

Yours sincerely,

*Прывітаньне Ўладыку Мікалаю ад прэм'ера Канады Браяна Малроні.*

# ЗІНАІДА ВІЛЬЧЫНСКАЯ Ў ГОМЕЛЬСКІМ КАНЦЛЯГЕРЫ

Паводля Міжнароднага Прадстаўніцтва Рады Эвангельскіх Баптыстаў Савецкага Саюзу, у СССР у турмах і канцэнтрацыйных лягерох знаходзяцца каля 130-х баптыстаў-эвангелістаў. Летась у травені была таксама арыштаваная ў Берасьці 55-гадовая Зінаіда Вільчынская, Беларуска, член Рады Сваякоў Зьняволеных. Зінаіду Вільчынскую засудзілі на два гады зьняволеньня за дапамогу сем'ям арыштаваных хрысьціянаў. Раней была арыштаваная і адна зь ейных дачок, Галіна, ды засуджаная за навучаньне дзяцей Біблії на пяць гадоў у сібірскія канцлягеры.

Сёлета ў студзені Зінаідзе Вільчынскай было дазволенае спатканьне зь ейнай другой дачкой. Падаём ніжэй зьмест ліста, у якім дачка апісвае ўмовы зьняволеньня свае маці ў Гомельскім жаноцкім канцлягеры. Поўны тэкст ліста апублікаваны паанглельску Міжнародным Прастаўніцтвам Рады Эвангельскіх Баптыстаў Савецкага Саюзу.

«Перад сустрэчай нас абшукалі стражнікі ды канфіскавалі ў нас тры ручкі, каб мы не змаглі чаго запісаць у часе сустрэчы з Мамай, — піша дачка Вільчынскае. — Мы былі таксама пэўныя, што ў пакоі былі ўстаноўленыя падслухвальныя мікрафоны і Мама моўчкі знакам папярэдзіла нас аб гэтым.

«Калі Маму ўвялі ў пакой, мы ледзь не абамлелі ад ейнага выгляду: Мама страшэнна пахудзела і нам было цяжка яе пазнаць. Ёй даводзілася вельмі цяжка ў турме, зь яе зьдзекаваліся й мучылі холадам. Маму трымалі ў камэры разам з крымінальнымі забойцамі і наркаманкамі. Аднойчы адна крыміналістка кінулася да Мамы з нажом ды пагражала перарэзаць ёй горла». Далей дачка З. Вільчынскай апісвае дэтальна суровы рэжым лягеру, бяспраўнае палажэньне ў ім зьняволеных. Калі З. Вільчынскую прывезьлі ў Гомельскі канцлягер, там знаходзілася каля 2500 вязьняў, а лягерныя баракі былі разьлічаныя толькі на 700 зьняволеных.

Дачка З. Вільчынскай піша: «Мама цяпер цяжка працуе, часам на расчыстку сьнегу яна ўстае а 4-й гадзіне ўраньні. Марозы там вялікія, а баракі бадай не апальваюцца. ...Блага ў Мамы і з здароўем, а яе ўсё выклікаюць на допыты, каб даведацца, адкуль яна дастала літаратуру, знойдзеную ў яе ў часе арышту».

Канчае дачка Зінаіды Вільчынскай свой ліст просьбай маліцца за зьняволеную й дапамагчы ёй. Газэта «Беларус», Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне далучаюцца да гэтае просьбы. Мы просім пісаць пра Зінаіду Вільчынскую сваім выбарным прадстаўнікам, кангрэсмэнам, сэнатарам ды пасылаць лісты таксама самому Гарбачову. Просьба таксама пісаць самой зьняволенай, падтрымваць яе духова. Ейны адрас:

Sovjet Union 246018
g. Gomel
Uchr. Uzh 15/4-5
Zinaida Vilchinskaya

# 1000-ГОДЗЬДЗЕ ХРЫСЬЦІЯНСТВА

Прыход царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку (Рычманд-Гіл, 104-29 Атлянтык Авэню) адзначыў у нядзелю 31 травеня сёлета 1000-годзьдзе хрысьціянства на Беларусі. Узгаловіў урачыстасьць Архіепіскап Мікалай, Першагіерарх Карпата-Рускай Праваслаўнай Царквы ў Амэрыцы, як прадстаўнік Архіепіскапа Якаваса, Экзарха Канстантынопальскага Патрыярха.

У царкоўнай залі адбыўся па багаслужбе банкет, на якім праграму вёў сп. Кастусь Мерляк, стыршыня царкоўнай управы.

Рэфэрат на тэму дня чытаў праф. Томас Бэрд. Дакладчык зрабіў агляд хрысьціянства на Беларусі ад IX ст. да 1944 году. Гэта была надзвычайная лекцыя, якую ўся заля зь цікавасьцю слухала. Крыху пазьней Данчык Андрусышын выканаў тры песьні пад гітару. Як заўсёды, публіка вітала яго бурнымі воплескамі.



*Урачысты мамэнт багаслужбы.*

У багаслужбе ўзялі ўдзел: а. Пратапр. Сьвятаслаў Коўш, Усевалад Шэмяціла — настаяцель нашае царквы, Архімандрыт Язэп Строк, Іераманах Грэгары (О'Кіфэ), а. Пратапр. Павал Вялікі, а. Мячыслаў Брынкевіч, а. Мячыслаў Ільчук, Іпадыякан С. Жамойда, дыякан Канстантын і спадарожнік Уладыкі Мікалая, сэмінарыст Грэгоры Бэнц.

Удзельнікам сьвяткаваньня прыслалі прывітаньні (чыталі сп-ня Хрыстына Гоган-Юрцэвіч і сп. Мерляк): Прэзыдэнт Рональд Рэйган, губэрнатар штату Нью-Ёрк Марыё Куома, мэр гоарду Нью-Ёрк Эдвард Коч, сэнатары Боб Доўл, Альфонс Д'Амата, Даніэль Мойнігэн.



*Вернікі ў царкве.*

На ўрачыстасьць прыехаў цэлы аўтабус парафіянаў царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай з Саўт-Рывэру, штат Нью-Джэрзы.

Хор, пад кіраўніцтвам сп. С. Жамойды, быў узмоцнены прыбылымі гасьцьмі, асабліва басамі. Пяялася магутна й прыгожа. Апостала чытаў В. Шчэцька, Евангельле — паслявянску Архім. Язэп, а паангельску — а. Грэгоры. Перад заканчэньнем багаслужбы Уладыка Мікалай прачытаў прывітаньне ад Архіепіскапа Якаваса ды ад літоўскага Біскупа Паўла А. Балтакіса. Народу ў царкве было шмат, як ніколі, хоць надвор'е стаяла вельмі гарачае (96 град. Фарэнгейта).

Прывітаньні прыслалі таксама Беларускі Кангрэсавы К-т Амэрыкі, прыход царквы Жыровіцкае Маці Божае (БАПЦ) у Клііўленьдзе, Нацыянальная Рэспубліканская Рада Этнічных Групаў, Антыбальшавіцкі Блёк Народаў, Баўгарска-Амэрыканская Рада Рэспубліканскіх Клюбаў у Амэрыцы, Беларускі Вызвольны Фронт, Беларускі Каардынацыйны К-т у Чыкага, Згуртаваньне Беларусаў у Вялікай Брытаніі, прадстаўніцтва Беларускага Кангрэсавага К-ту ў Каліфорніі, Беларуская Радыяпраграма ў Аўстраліі (Пэрт), Беларуская Радыяпраграма Ватыканскага Радыё ды цэлы шэраг прыватных асобаў.

Уладыка Мікалай у кароткай прамове выказаў сваё задаваленьне з удзелу ў сьвяткаваньні, падкрэсьліў важнасьць гэткай урачыстасьці ды падзякаваў гаспадаром за гасьціннасьць.

Сп. Мерляк прадставіў сходу духоўных айцоў (зь якіх некаторыя прамаўлялі), а таксама матушак. Былі прадстаўленыя сходу таксама: інж. Міхась Бахар, старш. царкоўнай управы прыходу Сьв. Еўфрасіньні ў Саўт-Рывэры; сп. Аркадзь Некрашэвіч, скарбнік прыходу Сьв. Еўфрасіньні ў Тароньце; сп. Міхась Каленік, сябра царк. управы прыходу Сьв. Юр'я ў Чыкага; сп. Крыстофар Монсэн, пасланец ад кангрэсмэна Гэры Акэрмана (сп. Акэрман зьмясьціў сваё выступленьне пра адзначэньне нашай царкоўнай юбілею беларускага хрысьціянства ў «Кангрэсавых Запісах»); сп. С. Д. Стаўбуненка, прадстаўнік украінскай царквы Сьв. Андрэя ў Джамэйцы, Н.-Ё.; сп. Любамір Іванаў, старш. царк. управы Баўгарскае Правасл. Царквы Патрыярха Ефтымія Тарнова; сп-ня Валянтына Лаеўская зь Беласточчыны, студэнтка ўнівэрсытэту; сп. Лявон Тарасэвіч, мастак зь Беласточчыны; др. Вітаўт Кіпель, старш. Беларускага І-ту Навукі й Мастацтва; паэт Масей Сяднёў; паэт Антон Даніловіч, рэд. часапісу «Беларуская Думка»; сп. Франук Бартуль, старш. Фундацыі імя П. Крэчэўскага; др. Ала Орса-Рамана, кіраўнік Беларускага танцавальнага ансамблю «Васілёк»; сп. Віталі Цярпіцкі, заст. старш. Беларускага Кангрэсавага К-ту ў Амэрыцы; сп. Мікалай Сіцько, заст. старш. рэлігійна-адпачынкавага цэнтру Бэлер-Менск; сп. Міхась Сенька, сакратар Беларускага Клюбу ў Саўт-Рывэры; сп. Жорж Наумчык, старш. Амэрыканска-Беларускага Клюбу ў Саўт-Рывэры.

Жанчыны нашага прыходу прыгатавалі торт з нагоды 1000-годзьдзя. Сп. Мерляк выказаў пажаданьне, каб хрысьціянства на Беларусі трывала яшчэ другія тысячу гадоў. На залю вынесьлі торт з запаленымі сьвечкамі. Айцы тушылі сьвечкі, а хор на мэлёдыю «Многая лета» сьпяваў: «Тысячагодзьдзя, тысячагодзьдзя...». Выйшла грандыёзна.

На прапанову сп. М. Сіцька хор адсьпяваў «Сто год» Злучаным Штатам Амэрыкі ў падзяку за свабоду й дабрабыт, якімі мы тут карыстаемся. На заканчэньне фармальнай часткі банкету сп. Мерляк падзякаваў усім гасьцям і прыхаджанам, пасьля чаго быў супольна адсьпяваны беларускі нацыянальны гімн.

Сьвяткаваньне наагул удалося і, незважаючы на гарачае надвор'е, прайшло вельмі добра. Галоўным рухавіком арганізацыі быў сп. Кастусь Мерляк. Ён улажыў у гэтае сьвяткаваньне свой час і свае арганізатарскія здольнасьці. І гэта дало вынік.

**Васіль Шчэцька**

*Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне вітае сваіх шматгадовых супрацоўнікаў Вітаўта й Зору Кіпеляў з круглымі ўгодкамі жыцьця ды шчыра жадае добрага здароўя, усякае памыснасьці на навуковай і грамадзкай ніве.*

**Галоўная Ўправа БАЗА**

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ДЭТРОЙЦЕ

Як і папярэднімі гадамі, парафія Сьв. Духа ў Іст-Дэтройце ўрачыста адзначыла дзень свайго Патрона. Сьвята сёлета прыпадала на аўторак 8-га чэрвеня, а сьвяткавалі 14-га чэрвеня ў нядзелю. Людзей на ўрачыстасьць сабралася шмат, прыбылі таксама й прадстаўнікі ад беларускіх парафіяў з Кліўленду і Таронта ў Канадзе.

Сьв. Літургію адслужыў Першагіерарх БАПЦ Уладыка Мікалай у суслужэньні з а. Міхасём Страпком, настаяцелем кліўлендзкае парафіі. Айцец Міхась прыбыў на нашую ўрачыстасьць із сваім іпадыяканам, сынам сп-ства Радзюкоў, — і з а. Аляксандрам Радэнковічам, настаяцелем сэрбскае парафіі ў Кліўленьдзе, што належыць да юрысдыкцыі БАПЦ. З а. Аляксандрам прыехаў ягоны кандыдат на іпадыякана, які, дарэчы, быў узьведзены ў сан іпадыякана тут-жа ў нашай царкве. Браў удзел у багаслужбе і наш іпадыякан, сын сп-ства Катовічаў. Божая Служба прайшла вельмі ўрачыста, прыгожа сьпяваў хор, папоўнены харыстамі з кліўлендзкае парафіі, пад кіраўніцтвам сп. Кастуся Калошы, дырыгента тае-ж кліўлендзкае парафіі.

Па Літургіі адбыўся супольны абед, падчас якога госьці, прадстаўнікі суседніх парафіяў, віталі нас ды выказвалі свае пажаданьні й сваё задаваленьне з добра зарганізаванага сьвяткаваньня.

Магчыма, найбольш прыемным было калі др. Сажыч, вітаў прадстаўнікоў з навейшае беларускае эміграцыі — маладых людзей, што некалькі гадоў таму прыбылі ў Канаду зь Беласточчыны ды адразу ўлучыліся ў беларускую грамадзкую працу.

Тут на месцы будзе шчыра падзякаваць нашым жанчынам за вельмі добра падрыхтаваны й зарганізаваны абед.

**М. Хацяновіч**

## УГОДКІ ЖЫЦЬЦЯ

Сябры й супрацоўнікі Антона Адамовіча ды Вітаўта й Зоры Кіпеляў адзначылі 15 ліпеня сёлета ўгодкі іхнага жыцьця супольным абедам ды найшчырэйшымі пажаданьнямі ўсім тром добрага здароўя й далейшае плённае грамадзкае, палітычнае, навуковае й выдавецкае дзейнасьці.

Рэдакцыя «Беларуса» далучаецца да ўсіх гэтых пажаданьняў.

## СУСТРЭЧА З СЭНАТАРАМ ЛЯЎТЭНБЭРГАМ

26 чэрвеня ў горадзе Ньюарку ў штаце Нью-Джэрзы адбылося спатканьне прадстаўнікоў 5-х усходняэўрапейскіх народаў (балтыйскіх, Украінцаў і Беларусаў) з сэнатарам ад штату Нью-Джэрзы Фрэнкам Ляўтэнбэргам ў сувязі з надыходзячай ягонай паездкай у Савецкі Саюз. Сэнатар быў паінфармаваны аб апошніх падзеях у рэспубліках Прыбалтыкі, на Ўкраіне й Беларусі.

Ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня даклад сэнатару прадставіў др. Вітаўт Кіпель, пасьля выступленьня якога сэнатар Ляўтэнбэрг заявіў, што ягоныя продкі паходзяць зь Менску, прыехалі ў ЗША на пачатку нашага стагодзьдзя. У неафіцыйнай частцы сустрэчы др. Кіпель меў магчымасьць правесьці даўгую гутарку з сэнатарам як аб Менску, Беларусі, гэтак і аб беларускай грамадзе ў штаце Нью-Джэрзы і ў Амэрыцы. На спатканьні былі таксама прадстаўнікі амэрыканскага друку, якія будуць суправаджаць сэнатара ў Савецкі Саюз.

# З ЖЫЦЬЦЯ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА

Парафія Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе адзначыла 17 травеня сёлета Дзень Патронкі. Сьвяткаваньне ачоліў Першагіерарх БАПЦ Архіепіскап Мікалай у суслужэньні з сьвятарамі: настаяцелем а. Міхасём Страпком, Мітр. Прат. Аляксандрам Радэнковічам з Сэрбскай Царквы, ды Прат. Уладзімерам з Баўгарскай Царквы.



*Духавенства ў часе малебну. Зьлева направа: прыслужнік Міхась Мiраеўскі, паддыякан Язэп Радзюк, Прат. Ўладзімер, Мітр. Прат. Аляксандар, Ўладыка Мікалай, Прат. Міхась, сьпераду прыслужнік Алесь.Кабяка.*

Сьвяткаваньне пачалося спатканьнем Архіепіскапа з кветкамі. Былі адслужаныя архірэйская сьв. Літургія ды малебен пры вялікім удзеле вернікаў і добрым выкананьні напеваў хорам.



*Выхад на працэсію.*

Сёлетняе сьвята было спалучана з 20-мі ўгодкамі сьвятарскае працы а. Міхася Страпка. З гэтае нагоды Ўладыка Мікалай узнагародзіў а. Міхася ў часе службы за ягоную шчырую й ахвярную працу санам пратаярэя. Пасьля службаў Уладыка ўзнагародзіў таксама пахвальнай граматай заступніка стыршыні парафіяльнае рады сп. Андрэя Стрэчаня за ягоную вялікую й ахвярную працу ў адмістрацыі царквы, царкоўных імпрэзах, парафіяльным доме й за дапамогу ў царкоўных службах.

У царкоўнай залі, упрыгожанай кветкамі, адбыўся банкет. Заля была перапоўненая ўдзельнікамі. Жанчыны прыгатавалі багатую й смачную страву.

Старшыня парафіяльнае рады Сяргей Карніловіч прывітаў а. Міхася з 20-мі ўгодкамі, падзякаваў яму за вялікую й ахвярна праробленую працу ў царкве. Айцу Міхасю быў уручаны ад парафіі падарунак, а матушцы Натальлі — букет кветак з падзякай за падтрымваньне мужа ў ягонай працы. Старшыня прывітаў з узнагародай таксама сп. Андрэя Стрэчаня, што выклікала вялікія воплескі.

Ад аддзелу БАЗА прывітаў а. Міхася й падарунак перадаў старшыня Янка Раковіч. Прамаўлялі таксама др. Я. Сажыч з Дэтройту, Прат. Аляксандар, Прат. Уладзімер; былі прачытаныя прывітаньні зь іншых асяродкаў. шчыра й магутна прагучэла «Многая лета» Прат. Міхасю й А. Стрэчаню.

Прат. Міхась у сваім выступленьні расказаў праз сваё духоўнае жыцьцё, пачатак рэлігійных курсаў, высьвячэньне ў сан дыякана ў 1967 г., рукапалажэньне ў сьвятары ў 1981 г., дасягненьні ў працы за мінулыя 20 гадоў. Ён падзякаваў усім за супрацоўніцтва, падтрымку й дапамогу ў працы, царкоўнаму хору за супрацоўніцтва, Уладыку Мікалаю й сьвятаром за ўдзел у сьвяткаваньні ды запэўніў, што надалей будзе працаваць ахвярна на карысьць парафіі й БАПЦ.

На заканчэньне ўрачыстасьці выступіў Уладыка Мікалай. Ён прывітаў прысутных з днём сьвята патронкі, падкрэсьліў, што парафія Кліўленьдзе добра зарганізаваная й моцная, прывітаў Прат. Міхася з угодкамі, аценіў ягоную добрую працу ды заклікаў усіх да далейшай еднасьці.

Сьвяткаваньне закончылася малітвай.

Трэба адзначыць, што парафіяльнае сьвята сёлета прайшло запраўды добра й больш урачыста, з большым удзелам духавенства, парафіянаў. Вялікая падзяка тут належыцца арганізатарам, парафіяльнай радзе, парафіянам за ўдзел ды жанчынам за прыгатаваньне абеду.

**К. П.**

### З ЖЫЦЬЦЯ Ў НЬЮ-ДЖЭРЗЫ

# ЦАРКОЎНЫЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА, ЮБІЛЕЙ 1000-ГОДЗЬДЗЯ

У Гайленд-Парку 31 травеня сёлета парафія БАПЦ Божай Маці Жыровіцкай адзначыла дзень свае Патронкі. Па багаслужбе адбыўся супольны абед, зладжаны стараньнем старшыні парафіяльнае рады сп. Т. Супруна ды сястрыцтва парафіі.

З парафіяльным сьвятам было спалучана адзначэньне 1000-годзьдзя хрысьціянства на Беларусі. З гэтай нагоды была наладжаная выстаўка кнігі й мастацтва, прысьвечаная юбілею, ды прачытаны сп. В. Русаком рэфэрат.

Сярод экспанатаў выстаўкі былі кнігі з насьвятленьнем раньняга пэрыяду хрысьціянства ў галіне кнігапісу, іканаграфіі й архітэктуры. Увагу прыцягваў барэльефны абраз сьв. Еўфрасіньні Полацкай, выкананы міжнароднай славы мастаком Паўлам Вінчы. Абраз быў зроблены й выдадзены стараньнямі сп. Міхася Белямука ў 1973 г. на адзначэньне 800-годзьдзя сьмерці сьв. Еўфрасіньні ў Ерусаліме.

Пачынаючы свой рэфэрат, сп. Русак, які нядаўна спатыкаўся з Архіепіскапам Мікалаем у Тароньце, перадаў прывітаньне парафіі ад Першагіерарха БАПЦ ды паінфармаваў, што Ўладыка Мікалай рыхтуе выданьне Эвангельля ў беларускай мове ў наступным годзе для адзначэньня 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі. Уладыка спадзяецца, што ўсе беларускія царкоўныя, навуковыя й грамадзкія арганізацыі ў вольным сьвеце адпаведна адзначаць гэты вялікі юбілей.

Выдатны вучоны й дасьледнік гісторыі й культуры Беларусі Мікола Шчакаціхін у сваёй кнізе, выдадзенай у Менску ў 1927 годзе ды хутка забароненай савецкай цэнзурай, казаў, што працэс прыходу хрысьціянства на Беларусь быў даўгі і павольны. Сьпярша хрысьціянства было рэлігіяй князёў і знаці ды паступова пранікала да народу. Відаць, у пашырэньні хрысьціянства на Беларусі ня было гвалту ды выкарэньваньня паганскіх звычаяў, шмат зь якіх, як каляды й купальле, набылі з часам хрысьціянскую сымболіку.

Княгіня Рагнеда, жонка Валадзімера, была хрышчаная ў 1000-м годзе пасьля пераезду ў Полацак. Ідэя хрысьціянства пала ў Беларусі на ўрадлівую глебу. Епіскапствы былі заснаваныя ў 992 г. ў Полацку, а ў 1005 г. ў Тураве ды ў 1137 г. ў Смаленску. Духавенства адыграла вялікую ролю ў маральным уздыме жыхарства й пашырэньні асьветы. Сьвятымі былі прызнаныя Еўфрасіньня Полацкая, Кірыла Тураўскі, Аўраам Смаленскі ды іншыя.

На беларускіх землях было збудавана шмат храмаў і манастыроў, некаторыя зь якіх сталіся выдатнымі помнікамі архітэктуры й мастацтва й датрывалі да нашых дзён.

Прынесены хрысьціянствам прагрэс вёў проста да піянера друкаванага слова ўва ўсходняй Эўропе — Францішка Скарыны, друкара «Бібліі» на пачатку XVI стагодзьдзя.

У гэтым юбілейным пэрыядзе, сказаў дакладчык, беларускія царкоўныя й навуковыя ўстановы павінны прысьвяціць шмат увагі дасьледаваньню шляхоў і формаў прыходу хрысьціянства на Беларусь ды вывучэньню ягонай духовай спадчыны, каб захаваць яе ад зьнішчэньня.

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ДОРАТЫ

Парафія БАПЦ ў Дораты, штат Нью-Джэрзы, адзначыла 7-га чэрвеня сваё парафіяльнае сьвята — Дзень Тройцы. Царква была прыгожа прыбраная бярозавымі галінкамі, на падлозе быў раськіданы аер — гэтак, як калісь рабілася дома на Беларусі. Урачыстую багаслужбу адправіў настаяцель парафіі Мітр. Прат. а. Карп Стар. Прыгожа сьпяваў хор, падмацаваны галасамі з парафіі ў Нью-Ёрку.



*Пасьля багаслужбы. Фота: Алег Дубяга.*

У царкоўнай залі адбыўся супольны абед, прыгатаваны старшай сястрой Таняй Марыноўскай. Трэба адзначыць тут, што парафія Сьв. Тройцы ў Дораты шмат заўдзячае сястры Тані, якая вядзе хор ды сваёю ахвярнасьцяй і гасьціннасьцяй шмат каму служыць прыкладам у жыцьці.

Прыемна было бачыць сёлета ў царкве шмат моладзі.

# ГРОДЗЕНСКІ ГУРТОК БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

## (1909-1914 г.г.)

**Ініцыятарам заснаваньня гуртка і яго кіраўніком праз пару першых гадоў быў кс. Францішак Грынкевіч. У ягоным памешканьні ў Бэрнардынскіх мурох у кастрычніку 1909 г. (дакладная дата няведамая, бо пратаколы арганізацыйнага сходу і паседжаньняў управы былі зьнішчаныя) адбыўся арганізацыйны сход невялікай групы моладзі, пакліканае ксяндзом з вышэйшых клясаў гродзенскіх школаў. Было там ня больш за восем асобаў, як падае ўдзельніца Людвіка Войцік. На гэтым першым паседжаньні быў узгоднены назоў арганізацыі — Гродзенскі* Гурток Беларускай Моладзі (ГГБМ), выбраная ўправа ў складзе:** старшыня — Адам Бычкоўскі, вучань 7-й клясы гімназіі, дваюрадны брат Антона Бычкоўскага, рэдактара віленскага «Беларуса»; заступнік старшыні — П. Алексюк; сакратар — Зыгмунт Абрамовіч і бібліятэкар — Л. Сівіцкая (цяперашняя Войцік). Там-жа быў абмеркаваны плян працы да акрэсьленая мэта: самаасьвета сяброў гуртка і шырокая сувязь зь вёскай, каб пачаць там нацыянальнае ўсьведамленьне.

Першае маё знаёмства з гуртком адбылося зімою 1910-1911 гадоў. Жыў я тады з маім сваяком Янкам Ляўковічам, які быў вучнем 7-ае кл. гімназіі і быў ужо сябрам гуртка. Я асабіста не мог належаць, бо ўвосені 1910 г. па зданым уступным экзамене ня быў прыняты ў гімназію, а запісаны кандыдатам: месцаў у першай клясе было менш, як кандыдатаў на навуку і прыймалі толькі з найлепшымі адзнакамі. Мае бацькі пастанавілі пасьлаць мяне ў Гродна жыць разам із сваяком і рыхтавацца да экзамену ў наступным годзе. Янка меў пакоік (цэльку) у Францішканскім кляштары за рэпэтыцыі з братанкам пробашча тае парафіі.

Жыўшы ў Гродне, я бываў на вечарынках, ладжаных малодшай сэкцыі сяброў гуртка ды горача ўспрыймаў усё беларускае, любіў слухаць лекцыі, чытаныя старэйшымі сябрамі на розныя тэмы беларусікі. Прыкладам, Бычкоўскі чытаў на тэму «Адгалосак душы беларускага народу ў ягоных песьнях, казках і легендах».

Асабліва вялікае ўражаньне зрабіў на мяне паказ «Моднага шляхцюка» Каруся Каганца, на ўсё жыцьцё застаўся ў памяці гэты спэктакль. Пасьля, чытаючы ў «Нашай Ніве» вельмі добрую ацэнку дзейнасьці гуртка, напісаную Іванам Луцкевічам (які быў запрошаны й прыехаў зь Вільні на вечарыну-спэктакль), мне вельмі хацелася быць сябрам гуртка, бо-ж быў я там толькі як госьць.

Нарэшце мае жаданьні збыліся. У жніўні 1911 г. прынялі мяне ў гімназію, і я зараз-жа запісаўся ў сябры гуртка ды пачаў браць актыўны ўдзел: належаў да хору, дэклямаваў вершы на вечарынках і да таго падобнае. Кіраўніком хору быў мой сваяк Ляўковіч, зь якім я жыў разам.

Уся беларуская моладзь вясковага паходжаньня майго часу ніякага нацыянальнага ўсьведамленьня ня мела. Бацькі былі або «рускай» або «польскай» веры і самыя ня ведалі, хто яны. Я паходжу зь вёскі на так званым запушчанскім прасторы з выключна каталіцкім насельніцтвам. Запушчане ведалі, што яны «польскай» веры, але польскага нацыянальнага ўсьведамленьня або патрыятызму там ня было, яны за Палякоў сябе не ўважалі. Наадварот, запушчане ўважалі мазуроў за Баброю (якія нас звалі «русінамі») за горшых, дурнейшых, што адлюстравалася ўва ўсялякіх прыказках і жартах. Такім чынам, з дому я ніякага нацыянальнага ўсьведамленьня ня меў.

Першы раз пачуў я назоў «Беларусы», бўышы на другім годзе дуброўскае прыхадзкое школы. Настаўнікам нашым быў малады памочнік кіраўніка школы Краўцэвіч (імя не памятаю). У нашай клясе было двух праваслаўных — «рускіх», а ўся рэшта былі каталікі — «польскія». Аднойчы Краўцэвіч, гаворачы да вучняў у часе перапынку, сказаў: «Вы — ня рускія і ня польскія, а ўсе вы — Беларусы». Быў я тады ў веку 9 гадоў і хоць, ня зусім зразумеў, але запамятаў гэтую заўвагу настаўніка. Два гады пазьней, калі пачаў чытаць «Нашу Ніву», зразумеў, што Краўцэвіч быў сьведамым Беларусам ды, відавочна, належаў да Згуртаваньня Беларускіх Настаўнікаў і Беларускай Сацыялістычнай Грамады, якія ўжо існавалі ў тым часе, бо ўвосені, калі я вярнуўся на трэйці год школы, Краўцэвіча ўжо ня было. Як казалі ягоныя суседзі ў Юрыздыцы: «Улетку прыехала паліцыя з Саколкі і забрала яго, падобна за належаньне да сацыялістаў. Што сталася зь ім пазьней, мы нічога ня чулі».

Сьведамым Беларусам я пачуўся, як пачаў наведваць гурток. У моладзі, што належала да арганізацыі, быў вялікі энтузіязм і ён перадаваўся кожнаму новаму сябру. Спрычыніўся да гэтага нязвычайны дар духовага правадыра-заснавальніка й кіраўніка гуртка кс. Грынкевіча.

Грынкевіч быў высака адукаваным чалавекам. Па сканчэньні духоўнай акадэміі ў Пецярбурзе вучыўся ў Інсбруку ў Аўстрыі. Меў ён дзіўную сілу пераконваньня. Бяз розьніцы, дзе і аб чым ён гаварыў, яго заўсёды хацелася слухаць.

Прыслужыліся таксама да энтузіязму гурткоўцаў здольнасьці й адданая праца некаторых старэйшых сяброў. Трох зь іх заслугоўваюць на спэцыяльную ўвагу.

**Адам Бычкоўскі**, першы старшыня гуртка, энэргічны, здольны арганізатар, ад самага пачатку пастараўся ўцягнуць усіх сяброў у якую-небудзь дзейнасьць: аднаму даручыў зарганізаваць хор; другому сабраць усіх, хто іграе на струнных інструмантах, і заснаваць струнны аркестр; старэйшым сябром даручаў чытаць даклады або вучыць малодшых беларускае мовы. Кожны сябра быў актыўным: хто сьпяваў, хто іграў, а ўсе вучыліся. А. Бычкоўскі пасьля закончыў юрыдычны факультэт у Пецярбурзе і, працуючы адвакатам у Варшаве, быў адным з заснавальнікаў Асьветнага Таварыства Беларусаў у Варшаве.

**Зыгмунт Абрамовіч**, таленавіты актор, быў душою арганізаваных сцэнічных спэктакляў. Ён выбіраў п'есу, ён рэжысэраваў, ён грыміраваў артыстаў і быў кіраўніком спэктакляў-вечарынаў. Зыгмунт Абрамовіч быў унукам Францішка Багушэвіча і меў сьведамасьць ды моцную беларускую традыцыю з дому. Пазьней ён належаў да аб'язнога тэатру Ігната Буйніцкага.

**Людвіка Сівіцкая**, цяперашняя Войцік (паэтка Зоська Верас). Бўышы бібліятэкаркай гуртка, яна не шкадавала ні часу ні сілаў, каб дастаць усю даступную ў тым часе беларускую літаратуру ды ўсё, што друкавалася ў беларускай мове. Навязала лучнасьць з «Нашай Нівай» і з выдавецкай суполкай «Загляне Сонца і ў Наша Ваконца» ў Пецярбурзе, даставала газэту, календары й кніжкі зь вялікай ськідкай, каб сябры, едучы на вёску, бралі прадаваць або проста раздаваць тым, хто мог чытаць. Дзеля таго, што гурток быў нелегальнай арганізацыяй, ён мусіў ужываць нейкі камуфляж. Спачатку сходы адбываліся ў памешканьні кс. Грынкевіча, які быў школьным капэлянам і мог кантактавацца з моладзьдзю бязь ніякіх арганізацыяў, а пасьля памешканьне Сівіцкай зрабілася нашым цэнтрам.

Маці Людвікі, як удавава па ахвіцэры царскае арміі, мела дазвол на кватэраваньне й сталаваньне школьнай моладзі. Мела яна памешканьне на Гараднічанскай вуліцы з адным вялікім пакоем, у якім адбываліся лекцыі й спэктаклі-вечарынкі. У адным канцы пакою была збудаваная сцэна, там таксама ішлі рэпэтыцыі хору й аркестру.

Людвіка была вельмі актыўнай у арганізаваньні выездаў на вёску са спэктаклямі, бо ведала людзей у ваколіцах Новага Двара, адкуль паходзілі ейныя дзяды й бацькі.

На апошнюю зіму перад І-й сусьветнай вайной Сівіцкая паехала ў Варшаву на курс арагодніцтва й пчалярства. У гадох 1915-1918-м яна жыла ў Менску, працавала пры Камітэце помачы ахвярам вайны і ў Беларускай Хатцы, дзе спатыкалася з Максімам Багдановічам, Ядвігінам Ш., Галубком, Смолічам ды іншымі ведамымі Беларусамі. Пасьля вярнулася ў Сакольшчыну й жыла ў Альхоўніках, фальварку свайго дзеда. У 1929 г. перабралася ў Вільню, дзе арганізавала Таварыства «Пчала», выдавала «Беларускую Борць», часапіс для дзяцей ды вяла карэспандэнцыйны курс пчалярства. Цяпер, у сярэдніх 90-х гадох свайго жыцьця, лістуецца зь беларускім сьветам.

У адным зь лістоў Сівіцкая піша: «Нашыя Беларусы сьпяшаюцца выцягнуць з маёй памяці ўсё, што магчымае, і то на самыя розныя тэмы». Да Зоські Верас прыяжджаюць з Гродна, Менску ды іншых гарадоў з рознымі пытаньнямі. Адзін з прафэсараў Беларускага ўнівэрсытэту даў ёй мянушку «Усіхняя Бабуля». Мянушка прынялася, і ў Менску так яе й завуць.

Пры ўспамінах аб Гродзенскім Гуртку Беларускай Моладзі пішу шмат пра Л. Сівіцкую, бо была яна асноўнаю асобаю падчас існаваньня гуртка, і толькі дзякуючы ёй засталася памяць аб гуртку.

У 1912 г. сакратаром ГГБМ быў С. Більмін, Беларус з польскімі перакананьнямі, які аказаўся здраднікам, зьнішчыў пратаколы паседжаньняў управы ад самага пачатку. Пазьнейшыя пратаколы, бібліятэка й тэатральны рэквізыт загінулі ў часе Першай сусьветнай вайны, і толькі тое, што Сівіцкая вывезла ў Менск — архіў бібліятэкі, рахункі й запіскі — дало магчымасьць ёй напісаць успаміны больш дакладна. Успаміны былі выдрукаваныя ў беластоцкай «Ніве». Сп-ня Войцік таксама спрычынілася да тэлевізійнае праграма аб ГГБМ на гродзенскім тэлебачаньні ў верасьні 1985 году. Перадача была са здымкамі й адпаведным тэкстам.

Першых пару гадоў гурток рос і праца ішла шпарка зь вялікім энтузіязмам. У лютым 1910 г. была наладжана першая вечарына з паказам камэдыі Крапіўніцкага «Па рэвізіі», дэклямаваліся вершы Купалы, выконваліся песьні ды выступаў струнны аркестр. Спэктакль быў паўтораны ў Гродне, а пасьля — ў Крыштапарове каля Новага Двара. Рэгулярна адбываліся лекцыі зь беларусікі для малодшых сяброў, а ўвесну гурток рабіў экскурсіі над бераг Нёмана.

*(Заканчэньне ў наступным нумары)*

**Б. Грабінскі**

* *Заўга:* Я сьведама ўжываю назоў «Гродна», а не як часта бачу «Горадна», «Горадня», бо ўсе Беларусы навокала гэтага места называюць яго «Гродна». — *Аўтар.*

# АЛЯКСАНДАР ШЛЮБСКІ

## (90-я ўгодкі ад нараджэньня)

Біяграфічныя весткі пра Аляксандра Шлюбскага надзвычай скупыя. З XI-га тому Беларускай Савецкай Энцыкляпэдыі можна даведацца, што Шлюбскі нарадзіўся 16 чэрвеня 1897 году ў вёсцы Межава, што на Полаччыне. Скончыў Віцебскае аддзяленьне Маскоўскага Археалягічнага Інстытуту. У 1918-23 г.г. ён удзельнічаў у арганізацыі архіваў у Віцебску, Полацку, Веліжы. У 1923-28 г.г. працаваў у Інстытуце Беларускае Культуры, а ад 1929 г. — у Беларускай Акадэміі Навук. Апрацаваў інструкцыю «Зьвесткі па зьбіраньню вуснай народнай творчасьці на Беларусі». Аўтар «Матэрыялаў да вывучэньня фальклёру і мовы Віцебшчыны», працаў зь беларускай культуры, этнаграфіі.

БелСЭ згадвае таксама ягоныя працы: «Да гісторыі канфіскацыі 'Нашай Нівы'», «'Мужыцкая Праўда' Кастуся Каліноўскага», «Паны і сяляне ў першай палове XIX стагодзьдзя», «Русальніца», «Крашаніна (набіванка)» і «Этнаграфічная дзейнасьць Еўдакіма Раманава».

Што да даты сьмерці Шлюбскага, дык БелСЭ падае толькі год — 1941. Вось чаму трэба меркаваць, што гэты выдатны вучоны не памёр натуральнай сьмерцяй, а загінуў дзесьці ў савецкім канцлягеры ці на высылцы. Шлюбскі бо, як і сотні, тысячы іншых беларускіх нацыянал-дэмакратаў, або нацдэмаў, стаўся ахвярай сталінскага тэрору, ён быў арыштаваны ў 1930 годзе.

Адзначаючы 90-годзьдзе нараджэньня Аляксандра Шлюбскага, мы азнаёмімся коратка зь ягонай цікавай працай пра долю беларускіх кнігасховішчаў і архіваў, што была надрукаваная ў першым нумары за 1925 год часапісу «Крывіч», выдаванага у Коўні Вацлавам Ластоўскім. Пазьней праца гэтая была выдадзеная ў форме адбіткі пад заг. «Доля кнігасховаў і архіваў зямель крыўскіх (беларускіх) і былога Княства Літоўскага».

Дарэчы, у артыкуле пра Шлюбскага, зьмешчаным у БелСЭ, гэтая публікацыя Шлюбскага прамоўчаная. А працу гэтую ня толькі ня трэба замоўчваць, а наадварот — яе варта было-б перавыдаць, асабліва ў сувязі зь цяперашнімі дамаганьнямі беларускага грамадзтва вярнуць у Беларусь музэйныя, бібліятэчныя і архіўныя зборы, што рознымі часамі і пры розных абставінах былі вывезеныя зь Беларусі і цяпер знаходзяцца паза межамі БССР.

У сваёй працы пра долю беларускіх кнігасховішчаў і архіваў Шлюбскі, між іншага, піша: «Усім, хто працаваў над дасьледваньнем гісторыі беларускага народу і беларускага краю,

*(Заканчэньне на 8-й б.)*

# ФЭСТЫВАЛЬ МАСТАЦТВА Ў АТАВЕ

У канадзкай сталіцы Атаве 8-10 траўня адбыўся 8-мы гадавы фэстываль «Бацькаўшчыны», арганізаваны Атаўскай Радай Народнага Мастацтва. Узяло ў ім удзел 28 нацыянальных групаў, у тым ліку й Беларусы.




*Наведвальнікі ў Беларускім павільлёне.*

Як і папярэднімі гадамі, праграма фэстывалю ўключала нацыянальныя павільлёны, нацыянальныя кухні ды выступленьні фальклёрных групаў. Удзел Беларусаў у фэстывалі абмежыўся да наладжаньня нацыянальнага павільлёну.

Сёлетні фэстываль быў прысьвечаны Сьвяту Маці. Тэму гэтую кожная група адзначыла парознаму. Беларускі павільлён ушанаваў Дзень Маці сэрыяй абразоў, тэматычна зьвязаных з мацярынствам, мастачкі Івонкі Шыманец-Сурвіла. Абразы былі паказаныя на фоне беларускага народнага мастацтва. Наведвальнікі беларускага павільлёну мелі магчымасьць атрымаць інфармацыю пра Беларусь, ейную гісторыю, мову, звычаі, а таксама пра Беларусаў у Канадзе.

Для вядзеньня ўрачыстасьці адкрыцьця фэстывалю быў запрошаны Франк Сасын, папулярная асабістасьць атаўскага радыё. Прадстаўляючы беларускую групу, Сасын заявіў, што ён — беларускага паходжаньня. Пры гэтым Сасын падаў, што й *найбольш слаўны сучасны Канадыец, гакеіст Ўэйн Грэцкі, таксама беларускага паходжаньня.* І калі пасьля Беларусы папыталіся ў Сасына, на чым ён асноўвае гэтае сьцьверджаньне, ён адказаў, што Грэцкі сам сказаў аб гэтым у адным інтэрвію, апублікаваным у прэсе, ды што ён, Сасын, пастараецца гэтае інтэрвію адшукаць. Абяцаньне сваё ён споўніў, бо назаўтра прынёс фатакопію інтэрвію, у якім *Ўэйн Грэцкі кажа, што ягоныя дзяды — Беларусы.*

Каб адудзячыцца сп. Ф. Сасыну за ягонае супрацоўніцтва, Атаўская Рада Народнага Мастацтва падарыла яму два тамы падручніка беларускай мовы Валянтыны Пашкевіч Fundamental Byelorussian.

Мэта гадавых фэстываляў «Бацькаўшчыны» — знаёміць Канадыйцаў з багатай культурнай спадчынай і традыцыямі паасобных нацыянальных групаў Канады. Сёлета, як і папярэднімі гадамі, мэта гэтая была дасягнутая: фэстываль прайшоў вельмі ўдала.

**Язэп Вішневіч**

# МАСТАЦТВА МІКОЛЫ ДАВІДЗЮКА

У польскім горадзе Лодзі жыве мастак Мікола Давідзюк, сьведамы Беларус, зацікаўлены гісторыяй беларускае культуры і ў трыманьні лучнасьці з суродзічамі.



*Абраз М. Давідзюка «Зашпілены», 1985 г., алей, палатно 81×60 цм.*

Пра мастацтва Міколы Давідзюка піша ў ілюстраваным каталёгу Давідзюковых твораў Міхал Стэфан Далецкі. Каталёг выйшаў у студзені сёлета ў Варшаве ў выдавецтве Сталічнага Бюро Мастацкіх Выставак (галерэя ТЭСТ).

Далецкі піша, што малярства Давідзюка вымагае ад мастака «адвагі й пакоры», а таксама прызнаньня ў сабе самым гэткае людзкое рысы, як страх перад сваёй-жа слабасьцяй. Ня кожны хоча зазіраць у цёмныя закуткі свае душы, піша Далецкі, але кожны ахвоча іх праветрыў-бы. Вось-жа Давідзюк сваімі абразамі і робіць гэта ў пэўным сэнсе за нас, кажа Далецкі. Пры дапамозе зыркіх, глыбокіх, выбуховых колераў у спалучэньні зь цёмнымі й суровымі тонамі, мастак перадае стан душы чалавека па тым баку дзённае явы, адлюстроўвае нашу падсьведамую яву, якая выяўляе сябе ў часе сну.

Адна з характэтных дэталяў сюррэалістычных абразоў Міколы Давідзюка — вялікія і паўсюдныя вочы — быццам існасьць нашая ніколі не засынае. Характэрная ў Давідзюка таксама раздвоенасьць адлюстроўваных постацяў — акцэнтаваньне двaістасьці нашага існаваньня, дзённага й ночнага.

У каталёгу, прысьвечаным малярству М. Давідзюка, зьмешчаныя 8 чорна-белых рэпрадукцыяў абразоў, пералічаныя 10 асабістых выставак мастака (у пэрыядзе 1976-1983 гадоў) ды падаюцца гады ўдзелу ў 25 калектыўных выстаўках у Польшчы, Швайцарыі, Францыі й Ангельшчыне. **Я. З.**

## *КАНВЭРТЫ ДА ЮБІЛЕЮ*

Таронцкая парафія БАПЦ, адзначаючы 1000-годзьдзе беларускага хрысьціянства, выдала канвэрты з эмблемай, якую апрацавала наша выдатная мастачка Тамара Стагановіч-Кольба. Парафіяльная рада складае мастачцы падзяку за гэту выдатную працу.

Канвэрты ў двух разьмерах — бюровым і звычайным — з чырвоным надрукам эмблемы, іх трэба замаўляць у колькасьці ня меншай за 20 штук (цана за 20: тры даляры, разам зь перасылкай). Цана пры закупе большай колькасьці — 10 цэнтаў за канвэрт з тым, што перасылку аплачвае пакупнік.




Замоўленьні слаць на адрас:
Byelorussian Church Parish
of St. Kiryla of Turau
525 St. Clarens Ave.
Toronto, Ont. M6H 3W7
CANADA

## «АБУДЖАЦЬ ІНІЦЫЯТЫВУ Ў МАСАХ»

У сувязі з новым курсам кампартыі на больш адкрытае публічнае абмяркоўваньне праблемаў, на паседжаньні прэзыдыюму праўленьня Саюзу Пісьменьнікаў БССР былі абмеркаваныя канкрэтныя пытаньні палепшаньня стану нацыянальнае культуры, упасобку пашыраньня беларускамоўных выданьняў і навучаньня беларускае мовы.

На паседжаньні была выказаная прапанова «ўвесьці выкладаньне беларускай мовы зь першага класу, пазбавіць бацькоў права вырашаць пытаньне вывучэньня беларускай мовы ў школе (г. зн. пытаньне аб «вызваленьні» ад беларускае мовы — рэд. «Б-са»), увесьці выкладаньне гуманітарных прадметаў у школах, тэхнікумах і ВНУ на беларускай мове».

Удзельнікі паседжаньня, як сказаў у сваім падсумаваньні спрэчак У. Калесьнік, гаварылі аб тым, што трэба «апэляваць да кіруючых органаў і прымаць адведныя законы», а таксама «арганізоўваць грамадзкую думку». «Калі мы ня будзем абуджаць ініцыятыву ў масах, — сказаў Калесьнік, — будзе нараджацца адваротнае — бяздухоўнасьць і абыякавасьць». («ЛіМ», 26.IX.86).

## ДА САКАВІКОВЫХ УГОДКАЎ У ЧЫКАГА

(Дапаўненьне; гл. «Б-с» № 334)

У часе акадэміі 25-га Сакавіка былі ўручаныя таблічкі падзякі дзьвюм заслужаным працаўніцам чыкагаўскае грамады: сп-ні Гэлене Сысой за ахвярную працу й фінансавую дапамогу Беларускаму Каардынацыйнаму К-ту ды сп-ні Веры Рамук за шматгадовае выдатнае кіравецтва й нястомную службу беларускаму грамадзтву ў Чыкага, а таксама за прапагандаваньне назову «Беларусь» у аргінале й беларускае культуры.

Гэта ўжо трэйці год з чаргі як Камітэт узнагараджае найбольш заслужаных асобаў. Летась падобная ўзнагарода была дадзена сп-ні Тарэсе Тарасэвіч й сп-ству Фрэнку й Кацярыне Айгатцу, а ў 1985 г. таблічкамі падзякі былі ўшанаваныя сп-ні Людвіка Бяленіс і Еўдакія Жызьнеўская. Першая гэткая падзяка была выказаная ў 1982 г. кангрэсмэну Фрэнку Анунцыё за ягонае падтрымваньне й прапагандаваньне ідэі беларускае Незалежнасьці.

У студзені сёлета мінула 14 гадоў ад заснаваньня Беларускага Каардынацыйнага Камітэту ў Чыкага. Сябры ягоныя сумленна й бескарысьліва працуюць для агульнага дабра ўсіх Беларусаў у Амэрыцы й на Бацькаўшчыне, годна рэпрэзэнтуючы нашую культурную спадчыну, пашыраючы веду пра Беларусь ды прапагандуючы наш назоў «Беларусь» сярод шырэйшых колаў амэрыканскага грамадзтва.

**Л. Д.**

## ЗЬДЗЕК НАД ІВАНАМ КАРЭЙШАМ

Іван Карэйша, 49-гадовы беларускі калгасьнік зь вёскі Высокае Талачынскага раёну Віцебскае вобласьці, гадамі ўжо дамагаецца, каб яго прынялі назад у калгас, зь якога яго незаконна вынікў старшыня Грыгаровіч. Аднак ані мясцовыя, ані рэспубліканскія, ані саюзныя ўстановы й міністэрствы ня хочуць заступіцца за пакрыўджанага калгасьніка, над ім без канца зьдзекуюцца мясцовыя адміністратары, міліцыя ды карная псыхіятрыя. Мясцовыя-ж калгасьнікі маўчаць, бо баяцца старшыні.

Пра нядолю Івана Карэйшы расказваецца ў дакумэнтах, якія склала праваабаронец-масквічка Мальва Ланда, былая палітычная зьняволеная. Трыццаць старонак машынапіснага матар'ялу пра Карэйшу зьмешчаныя ў бюлетэні «Материалы Самиздата», выдаваным радыястанцыяй «Свабода» ў Мюнхэне ў Заходняй Нямеччыне (выпуск № 16/87, 18.V.87, нумары дакумэнтаў: АС 5963 і 5964).

## УКРАІНІКА ЗЬ НЕДАГЛЯДАМ

Рэцэнзуючы 2-хтомавы каталёг «Украініка ў бібліятэцы Таронцкага Ўнівэрсытэту» (рэцэньзія зьмешчаная ў часапісе Canadian Slavonic Papers, сьнежань 1986, б.б. 462-463), др. В. Кіпель падкрэсьліў адзін вельмі адмоўны мамэнт у гэтай публікацыі: у каталёгу (а відавочна і ў калекцыі ўкраінікі ў Таронцкім У-це, аднэй з найбольшых) няма ніводнае кнігі на тэму беларуска-ўкраінскіх дачыненьняў, хоць, як зазначае рэцэнзэнт (ды дае колькі прыкладаў) кніжак на гэтую тэму ёсьць дастаткова. Магчыма, беларускім арганізацыям у Канадзе варта было-б гэтай справай зацікавіцца.

## АЛЯКСАНДАР ШЛЮБСКІ

*(Заканчэньне з 6-й б.)*

прыходзілася і прыходзіцца сустракацца зь вельмі дзіўным і сумным здарэньнем: нястачай кніжных скарбаў і рукапісаў, асьвятляючых беларускае гістарычнае жыцьцё, якімі з самых даўных часоў была багатая Беларусь, *якіх у Беларусі было шмат разоў больш чым, прыкладам, у Маскоўшчыне».*

Цьверджаньні аб перавазе беларускае культуры над расейскай, нават на пачатку 20-х гадоў, пэрыядзе адноснага лібэралізму ў Савецкім Саюзе, даволі небясьпечная справа! Вядома-ж, што кнігі й рукапісы, якія дайшлі да нас — гэта толькі, кажучы словамі Шлюбскага, «слабы цень творчай дзейнасьці беларускага народу, якая была замацаваная ў старадаўныя часы ў рукапісных матэрыялах і друку».

«Уся гісторыя беларускага народу, — кажа аўтар, — гэта мора чалавечай крыві, якая тапіла ў сваіх хвалях усе найлепшыя праявы культурнага народнага жыцьця... Шмат разоў згаралі дашчэнту беларускія гарады, мястэчкі, вёскі, а багацьце народнае, якое знаходзілі заваёўнікі разносілася па вялізарных абшарах Маскоўшчыны, або ў польскія замкі аматараў старасьвеччыны, ці па далёкай Швэцыі».

Сыстэматычны вываз кніжнага і рукапіснага багацьця зь Беларусі ў Маскоўшчыну пачаўся, паводле Аляксандра Шлюбскага, у 1669 годзе. У лістападзе таго году, шмат беларускіх кніжак Расейцы вывезьлі ў Маскоўскі Пасольскі Прыказ, а ў 1672 г. — у Маскоўскі Стралецкі Прыказ. У 1708 г. на загад Пятра І-га ўвесь горад Магілёў быў спалены; у полымі загінулі старыя дакумэнты, усе рукапісы і друкаваныя кнігі, якія былі ў горадзе. У 1772 годзе была перавезеная ў Пецярбургскую Акадэмію Навукаў даволі значная бібліятэка Радзівілаў зь Нясьвіжу.

У 1793 г. зьбіраіліся беларускія летапісы па манастырскіх бібліятэках на Беларусі для гістарычных працаў Кацярыны ІІ-й, і, як вынік гэтага, у 1794 годзе ў Пецярбург былі высланыя ўсе рэестры і рукапісныя летапісы Бельскага, Стрыйкоўскага, Гваніна, Кромэра і Нарушэвіча.

Сярод каштоўнасьцяў вывезеных у Маскоўшчыну быў і архіў дзяржаўных дакумэнтаў Вялікага Княства Літоўскага, вядомага пад умоўным назовам як «Літоўская Мэтрыка», якая ў 1795 г. на загад расейскага Сэнату была вывезеная ў Пецярбург ды была зьмешчаная ў тым-жа Сэнаце, дзе яе адразу разьмяркавалі там паміж міністэрствамі Юстыцыі, Замежных Справаў, Пецярбургскай Публічнай Бібліятэкай ды Бібліятэкай Маскоўскага Румянцаўскага Музэю. 1200 кнігаў і каля паўтары тысячы паасобных дакумэнтаў былі перададзеныя Прусіі.

У 1889 г. «Літоўская Мэтрыка» была перавезеная зь Пецярбургу ў Маскву, дзе яна знаходзіцца й цяпер у Цэнтральным Архіве Старажытных Актаў СССР.

У студзені 1926 г. у рамках дзейнасьці гісторыка-археалягічнай камісіі Інстытуту Беларускае Культуры, адбылася ў Менску нарада ў справе беларускай археалёгіі й археаграфіі. Нарада прыняла пастанову дамагацца ад уладаў Расейскае Фэдэрацыі, каб *усе* беларускія архіўныя скарбы былі вернутыя ў сховішчы БССР. Нажаль, з гэтага нічога ня выйшла. Але пытаньне гэтае застаецца адкрытым. Яно ізноў пастаўленае на парадак дня.

**Язэп Барэйка**

## СЬВ. † ПАМ. УЛАДЗІМЕР БУТРЫМОВІЧ

Народжаны ў в. Андрушыны каля Нясьвіжу 31 сьнежня 1922 г., па доўгай хваробе памёр 27 чэрвеня 1987 году. Быў дзейным сябрам Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Закончыў Лювэнскі Ўнівэрсытэт. Быў старшынём аддзелу ЗБВБ ў Брадфардзе. Жыўшы у Лёндане, займаў становішча старшыні ЗБВБ, належаў да Англа-Беларускага Таварыства. Доўга цярпеў ад невылячальнай хваробы, спрычыняючы гэтым самым перажываньні жонцы Лізе.

Абрад пахаваньня выканаў Мітр. Прат. а.Аляксандар Надсон у капліцы цьвінтара Ісьлінгтон, дзе й адбылося спапяленьне цела — 2 ліпеня 1987 году.

Спачуваньні Лізе.

**Галоўная Ўправа ЗБВБ**

## СЬВ. † ПАМ. ЭЛЕНА НАВАРА

З глыбокім сумам паведамляем аб сьмерці 19 чэрвеня 1987 г. жонкі сьв. пам. Паўла Навары й вялікай прыяцелькі Беларусаў. Быўшы Ангелькай, яна выказала сябе надзвычайна творчай у беларускай грамадзкай працы, дапамагаючы ўсім, чым толькі магла.За жыцьця мужа ёй даводзілася шмат дзе рэпрэзэнтаваць разам зь ім Беларусаў. Нябожчыца заўсёды брала ахвоча ўдзел у розных імпрэзах, сьвяткаваньнях. Ейны вясёлы настрой рабіў сустрэчу зь ей прыемнай, і ветласьць ейная сталася незабыўнай у кожнага, хто меў нагоду зь ёю пазнаёміцца. Прадчасна, у веку 58 год, адыйшла з гэтага сьвету, пакінуўшы дзетак, Элізабэту 18 і Міколу 21 году. Капліца на могілках была запоўненая сваякамі й прыяцелямі, якія праводзілі Нябожчыцу 25-га чэрвеня да супольнай магілы з мужам на цьвінтары сьв. Панкрата.

Вечная памяць.

Спачуваньні Элізабэце й Мікалаю.

**Галоўная Ўправа**
**Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі**

## СЬВ. † ПАМ. МАРЫЯ САДОЎСКАЯ (Дзявоцкае прозьвішча Салавей)

З сумам і жалем паведамляем, што на 57-м годзе жыцьця 29 траўня 1987 г. адыйшла на вечны супакой Марыя Садоўская.

Нарадзілася Нябожчыца 8 жніўня 1930 г. на хутары Журавок Брэсцкай вобласьці. Пахаваная на магільніку Чэнтальгайм у Адэляйдзе, Паўдзённая Аўстралія. Абрад паховінаў выканаў а. Міхась.

Вечная памяць, дарагая Марыя, хай будзе табе пухам Аўстралійская зямелька.

**Муж Алесь Садоўскі і сястра Анна**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

**ЗША**

*Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | | |
|---|---|---|
| 1. Ю. Сенькоўскі | ам дал. | 100 |
| 2. А. Шукелойць | | 100 |
| 3. Л. Трусэвіч | | 75 |
| 4. В. В. | | 60 |
| 5. В. і М. Махнач | | 50 |
| 6. М. Смаршчок | | 50 |
| 7. Р. Завістовіч | | 40 |
| 8. Н. Сьнежка | | 40 |
| 9. Н. Латушкін | | 30 |
| 10. Б. Грабінскі | | 25 |
| 11. Ю. Кіпель | | 25 |
| 12. І. Каханоўская | | 25 |
| 13. У. Бакуновіч | | 25 |
| 14. Л. Кавалёў | | 20 |
| 15. Я. Юхнавец | | 20 |
| 16. Н. Жызьнеўскі | | 20 |
| 17. М. Грэбень | | 20 |
| 18. В. Косараў | | 18 |
| 19. Н. Лапушынскі | | 15 |
| 20. Ф. Бартуль | | 50 |
| | Разам | 808 |

*Падпіска і ахвяры праз сп. Б. Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| 1. Ю. Стагановіч | 30 |
| 2. П. Кажура | 30 |
| 3. Я. Сапежынскі | 20 |
| 4. М. Мядзейка | 20 |
| 5. Т. Супрун | 20 |
| 6. К. Барысавец | 15 |
| 7. К. Стрэш | 15 |
| 8. М. Ігнатовіч | 15 |
| 9. Я. Яновіч | 15 |
| 10. М. Януш | 15 |
| 11. Л. Літарвоіч | 15 |
| 12. А. Філістовіч | 15 |
| 13. П. Талмачэвец | 15 |
| 14. С. Мажэйка | 15 |
| 15. Я. Бабіцкі | 15 |
| 16. В. Сітнік | 15 |
| 17. А. Балкоўскі | 15 |
| 18. А. Стукаліч | 15 |
| 19. К. Колбік | 15 |
| 20. Ю. Азарка | 15 |
| 21. А. Шэршуновіч | 10 |
| 22. Т. К. | 3 |
| Разам | 358 |

**КАНАДА**

| | | |
|---|---|---|
| 1. К. Акула | ам. дал. | 35 |
| 2. П. Конюх | | 20 |
| 3. В. Пашкевіч | | 20 |
| 4. Я. Скурат | | 20 |
| | Разам | 95 |

**АНГЛІЯ**

| | | |
|---|---|---|
| 1. М. Віценьчык | анг. ф. | 5 |
| 2. М. Яськевіч | | 5 |
| | Разам | 10 |

**АЎСТРАЛІЯ**

| | | |
|---|---|---|
| М. Зуй | аўст. дал. | 20 |